Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 42 (96) Серада, 23-га Сьнежня 1925 г. м. Вільня Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
" " " 3 " 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno; ul. Niemiecka 1 „Hotel Sokołowskiego“ pokój № 23. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11 — 1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стр. —20 гр.
за радок нонпарэля у тэксьце—25 гр.
на апош. стр.—15 гр.

## ПАСОЛЬСКІЯ „БЛІНЫ“.

Аб тым, што беларускае парлямантарнае прадстаўніцтва ў Польскім Сойме, насьпех склеенае п. Луцкевічам, аканчальна збанкрутавала, мы мы пісалі ўжо ня раз.

Банкруцтва гэтае выявілася з першых-жа крокаў беларускіх паслоў на Соймавым грунце. Замест выразнай праграмы, выстаўленьня конкрэтных вымаганьняў і жаданьняў беларускага народу, — яны прынясьлі ў Сойм толькі дэмагогічна-гучную мітынговую фразу, гістэрычныя выкрыкі, мутна-баламутную блутаніну ў самых простых і ясных пытаньнях і палітыканства самага таннага і прамітыўнага гатунку. А ўся тактыка Беларускага Пасольскага Клюбу можа быць акрэсьляна, як... паказваньне кулака ў кішані і хістаніна сюды-туды. Зусім зразумела, што зьявіўшыся з гэткім багажом на парляманцкім грунце, беларускія паслы ня толькі не маглі здабыць чаго небудзь для свайго наароду, але нават не маглі здабыць пашаны і для саміх сябе. Яшчэ спачатку крыху лічыліся з Беларускім Пасольскім Клюбам. Але хутка гэтыя адносіны рэзка зьмяніліся і цяпер ужо ня чуваць, каб, пры якіх небудзь палітычных камбінацыях, Бел. Пас. Клюб іграў нейкую ролю.

Зусім зразумела, што уся адказнасьць за гэткае становішча цалкам падае на „патэнтаваных“ беларускіх палітычных „дзеячоў“. Ідучы на выбары, яны перш-на-перш павінны былі зразумець усю вагу факту ўваходу іх у Польскі Сойм і ўсе тыя абавязкі, якія накладае на іх гэты факт у адносінах да краю і народу, паслаўшага іх у Сойм, і выразна адказаць сабе на вельмі простае, але кардынальнае пытаньне, ісьці, ці не ісьці ў Сойм.

У часе выбараў, пытаньне аб усходніх граніцах Польшчы наагул, а значыцца і лёс нашага краю ў сэнсі яго дзяржаўнай прыналежнасьці былі яшчэ ня вырашаны. Пытаньне аб уваходзе ў Польскі Сойм прадстаўнікоў беларускага (як і ўкраінскага) народу — магло яшчэ мець нейкае значэньне для аканчальнага вырашэньня гэтай прыналежнасьці. І вось, калі беларускія паслы ўважалі сябе праціўнікамі прыналежнасьці Беларусі да Польшчы і мелі замер правадзіць у адносінах да яе тую абструкцыйна-нэгатыўную палітыку, якой яны гэтак упарта дагэтуль трымаюцца, дык лепей было б зусім адмовіцца ад мандатаў і заявіць усяму сьвету свой пратэст.

Якія былі-б практычныя рэзультаты гэтага кроку—цяжка прадбачыць, але затое уражаньне, за якім відаць толькі і ганяюцца беларускія паслы, было б вялікшае, чымсь усе іх цяперашнія „пратэсты“ і абструкцыі.

Калі-ж яны рашылі пайсьці ў Сойм, прынялі мандаты і зложылі прысягу Дзяржаве і Конституцыі, дык трэ' было паклапаціцца аб тым, каб зьявіцца на Соймавым грунце не з нэгатыўнай, але з канкрэтнай і пазытыўнай праграмай.

Голы пратэст, без аказаньня выразна акрэсьляных дамаганьняў, ня мог даць на парляманцкім грунце ніякіх рэзультатаў, бо з гэтых пратэстаў нельга была нават зразумець: чаго-ж урэшце дамагаюцца пратэстуючыя. За тры гады „працы“ беларускія паслы ня здолелі нават сформуляваць жаданьняў нашага народу ў форме нейкага праэкту. Адсутнасьць праграмы і няздольнасьць да пазытыўнае парляманцкае працы, завялі Пасольскі Клюб у аканчальны тупік. Апыніўшыся ў палажэньні што называецца ні ўзад ні ўперад, паслы, відаць, зразумелі нарэшце, што ісьці гэткім шляхам далей нельга. Аднак і тут яны нічога лепшага не маглі зрабіць, як.. падзяліцпа на партыі. Але гэтае драбленьне, апроч аслабленьня і бяз таго маленькіх сіл — прывяло толькі да рознагалосіцы ды спрэчак, ужо паміж самымі пасламі. Увесь рэзультат падзелу сказаўся толькі ў тым, што раней пратэсты рабіліся цэлым клюбам, гэтак кажучы агулам, оптам, а цяпер — у розьніцу, хто куды і як хто хоча.

Першы падзел — выхад з клюбу г. зв. групы Тарашкевіча—ня вывеў з тупіка ні тых, што выйшлі з Клюбу, ані тых, што засталіся ў ім. Аднак, група Тарашкевіча, выразна стаўшы на шлях комунізуючага радыкалізму, мае хаця акрэсьляны напрамак. Абломкі ж Бел. Пас. Клюбу засталіся пастарому—ні тое, ні сёе.

І вось мы бачым ужо новы распад: нарадзілася новая „партыя“, пад гучнай назвай „Сялянскі Саюз“, з Рагуляй і Ярэмічам на чале. Выступленьне гэтае „партыі“ пасол Тарашкевіч ахарактарызаваў як „перш (?) блін ды комам“. Запраўды толькі гэтак і можна акрэсьліць гэты новы твор палітыканства беларускіх паслоў. Як відаць з артыкулаў, зьмешчаных у органе новай групы — „Сялянскай Ніве“, „партыя“ гэтая зусім ня мае ніякае праграмы. Больш-менш, хаця і вельмі туманна, выражаны пагляд, ці адносіны да пытаньняў нацыянальнага і соцыяльнага. Але гэта яшчэ ня ёсьць праграма, а толькі пэўны пагляд І ў палітычным сэнсе, „Саюз зьяўляецца нейкай астранамічнай „туманнай плямай“. А значыцца — няма чаго чакаць нейкай творчай працы і ад гэтага новага твору.

Гэткім чынам, усе дасюлешнія спробы бел. паслоў, пры дапамозе розных „бліноў“, выйсьці на шлях пазытыўнае працы, як бачым, выйшлі запраўды „комам“. Працэс шуканьня выхаду яшчэ не закончыўся, і пэўне яшчэ не адзін гэткі „блін“ выйдзе з кухні „дзеяча“ Луцкевіча і ягоных „протэжэ“. Аднак, ужо цяпер можна прадбачыць, што з гэтых спробаў нічога добрага выйсьці ня можа. Фальшывая пазыцыя, на якую стаў Бел. Пас. Клюб, ужо накрэсьліла яго далейшы лёс. Ніякімі „блінамі“ справы гэтай ужо не направіць, бо калі замест палітыкі заняліся палітыканствам, дык рэзультат можа быць толькі адзін: кожны блін выйдзе „комам“. Сумны лёс беларускіх паслоў, якія замест палітычнае працы заняліся пячэньнем „бліноў“, зьяўляецца найлепшым доказам банкруцтва тактыкі бязкрытычнага пратэсту і радыкалізму дзеля радыкалізму і паказвае, што гэтым шляхам нічога здабыць ня можна.

І гэтым яшчэ раз пацьверджаецца правідловасьць пазыцыі Час. Бел. Рады, якая адразу стала на грунт рэальнае палітычнае працы і, замест таго каб займацца нейкімі пратэстамі ды пагрозамі „дымам пажараў“ і г.д., імкнецца да зрэалізаваньня беларускіх нацыянальных лятуценьняў шляхам лёяльнага компрамісу ў граніцах польскае конституцыі.

## Палітычны агляд.

У Заходняй Эўропе цяпер можна заўважыць два дзіўныя зьявішчы: 1) у тых дзяржавах, якія не прыймалі вучасьця ў вайне і якія дзякуючы гэтаму ня маюць эканамічнага і фінансавага крызіса комунізм зусім ня можа прывіцца і 2) у дзяржавах, якія прыймалі вучасьце ў сусьветнай вайне, усёроўна з якога боку, комунізм узмацоўваецца, прадстаўляючы паважную небясьпеку. І гэтай небясьпецы ў апошні час больш за ўсіх падлягаюць акурат тыя дзяржавы, якія выйшлі з вайны пераможцамі, як Францыя і Англія, або якія ўтварыліся на руінах б. Аўстра-Вэнгерскай або Расейскае імпэрыі, як Чэхаславакія, Польшча, Латвія і інш. Апошнія цяпер перажываюць найцяжэйшы эканамічны крызіс. А комунізм, як усялякая зараза, лепш за ўсё развіваецца на хворым дзяржаўным арганізьме, Гэта відаць з гэткіх прыкладаў.

Нядаўна скончыліся выбары ў Нарвэгіі ў гарадзкія і сельскія самаўрады. Комуністы мелі на іх поўную няўдачу, ня гледзячы на тое, што гэта дзяржава мае сільна разьвітую прамысловасьць У самай сталіцы Осьлё рэзультаты выбараў былі гэткія: блёк консэрватыўна лібэральны атрымаў 41 мандат, работніцкая партыя 40, консэрватары 2 і комуністы толькі 1. Гэткі нязначны ўплыў маюць комуністы ў дзяржавах здаровых эканамічна, ня закранутых вайной, як Швэцыя, Данія, Швэйцарыя, Амэрыка, Канада і інш.

У Швэйцарыі ёсьць у парляманце толькі 2 комуністы, што састаўляе 1 працэнт. У Скандынаўскіх дзяржавах крыху больш: у Нарвэгіі 6, г. зн. 4 прац і ў Швэцыі 5, г. зн. 2 прац. У 110 мільённай дзяржаве — Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі ў парлямэнце няма ніводнага комуніста, а ўва ўсей дзяржаве ёсьць усяго толькі 15.000 комуністаў. Таксама няма ніводнага комуніста й у Канадскім парляманце. Там на апошніх выбарах, на 300 дэпутатаў парлямэнту прайшло толькі двох соцыялістаў і ніводнага комуніста.

Цяпер глянем, як стаіць справа з комуністычнай заразай у дзяржавах, прыймаўшых вучасьце ў вайне і дзеля гэтага надта пацярпеўшых эканамічна. У Нямеччыне, ў ранейшым парляманце было 62 комуніста на 380 дэпутатаў. На апошніх выбарах комуністы здабылі 45 мандатаў коштам соц.-дэмакратаў, якія прайгралі на выбарах. Пры выбарах прэзыдэнта Гіндэнбурга нямецкія комуністы сабралі 1.700.000 галасоў. У кастрычніку сёлетняга году адбыліся выбары ў бэрлінскую гарадзкую раду, на якіх комуністы атрымалі 42 мандаты, замест ранейшых 21, г. зн. павялічылі лік сваіх мандатаў роўна ў 2 разы. Ува Францыі, ня гледзячы на яе ваенную перамогу, у парляманце ёсьць комуністаў 33 чалавекі, што састаўляе 5,6 прац. Нават фашыстская Італія мае ў парляманце 17 комуністаў, што пры 70,50 прац. фашыстаў састаўляе 3,2 прац.

Але ў яшчэ больш цяжкім палажэньні цяпер апыніліся новапаўстаўшыя дзяржавы, як Чэхаславакія, Польшча, Літва, Латвія і інш. Спачатку матэрыяльнае палажэньне гэтых дзяржаваў было досыць добрае, дзякуючы таму, што яны былі пад апекай пераможцаў і Амэрыкі. Ведама, як у першыя часы Амэрыка прысылала ім дарма прадукты, выдавала на карыстных варунках грашавыя крэдыты і г.д. Гэтыя дзяржавы радзіліся, проста кажучы, у сарочцы. Але трэба зазначыць, што гэткія добрыя адносіны да іх загранiцы толькі пашкодзілі ім. Дзяржавы гэтыя думалі, што заўсёды будзе падаць гэткая манна з неба Дзеля гэтага, замест таго, каб адразу ўзяцца за чорную работу наладжаньня эканамічнага палажэньня, як гэта робіць цяпер напр. Нямеччына, наладзіўшая свой флот, чугуначныя дарогі, прамысловасьць і г.п., прымусіўшы рабочых працаваць па 10—11 гадзін у дзень, гэтыя новыя дзяржавы, перш за ўсё, пачалі карыстацца прыемнасьцямі здабытай незалежнасьці. Усе грамадзяне толькі дамагаюцца ад дзяржавы, ня хочучы самі ёй нічога даваць. Рабочыя пачалі дамагацца ўвядзеньня 8 гадз. рабочага дня. Інтэлігэнцыя атрымала службу ў шмат большых працэнтных адносінах, чым можа вытрымаць дзяржава. Захацелася мець вялікую армію—большую, чымсь можа вытрымаць дзяржаўны бюджэт. Усе пачалі дамагацца эмэрытуры—ваенныя інваліды, быўшыя ўрадоўцы і інш. Зьявілася жаданьне паказаць сябе за граніцай ува ўсей бліскучасьці. Утварылася шмат дыпляматычных і консульскіх прадстаўніцтваў, нават у тых дзяржавах, з якімі ня было ніякіх гандлёвых зносінаў. Дзеля ўсяго гэтага патрэбны былі вялізныя грашовыя расходы, патрэбны капітал, які выробляецца і дабываецца толькі цяжкай працай. Дзяржавы гэтыя пачалі жыць надта шырока і ў рэзультаце апыніліся на беразе пропасьці. У гэткім палажэньні знаходзімся цяпер і мы.

Новы ўрад Скшынскага ўжо ня хавае таго цяжкага палажэньня, у якім апынілася дзяржава ў рэзультаце такой палітыкі. З усей энэргіяй ён пачаў скарачаць расходы і дзеля гэтага пастанавіў зьменшыць бюджэт на 1926 г. з 2-х мільярдаў да 1 мільярда 500 мільёнаў злотых. Але няма ведама, ці выратуе цяпер і гэта, дзеля таго што злоты падае, прамысловасьць зьменшаецца, лік безработных расьце з кожным днём (зарэестравана больш за 250,000, але фактычна даходзіць да 500.000, што састаўляе больш за палову ўсіх рабочых), эканамічнае палажэньне робіцца усё горшым. Да ўсяго гэтага далучаецца яшчэ антаганізм нацыянальных меншасьцяў, якіх новапаўстаўшыя дзяржавы не патрапілі зьліць з пануючымі нацыямі. Прыбітыя і напалоханыя спачатку, нацыянальныя меншасьці пачалі памалу дамагацца сваіх праwоў, энэргічна выступаць на выбарах і здабываць для сябе адпаведнае становішча у дзяржаве. І ў рэзультаце мы бачым, што ў новых дзяржавах пачынаюць гуляць важную ролю нацыянальныя меншасьці і комуністы з социялістамі.

У Чэхаславакіі, на апошніх выбарах, якія адбыліся 15 лістапада, комуністы здабылі 41 мандат на 300 дэпутатаў (раней яны мелі 27). Славакі атрымалі 23 замест ранейшых 11. А нямецкая, славацкае і вэнгерскае нацыянальныя меншасьці разам атрымалі 81 мандат. З гэткай групай дзяржава павінна паважна лічыцца Дзякуючы гэтаму ў Чэхаславакіі надта цяжка было сарганізаваць новы кабінэт. А ў Латвіі, вось ужо каля 2 месяцаў, ня можа сарганізавацца кабінэт, дзякуючы таму, што там на апошніх выбарах социялісты з нацыянальнымі меншасьцямі прайшлі ў большасьці: социялісты і нацыянальныя меншасьці атрымалі—52 мандаты, а іншыя партыі—48. Дайшло нават да таго, што прэзыдэнт рэспублікі запрапанаваў нацыянальным меншасьцям увайсьці ў урадовую коаліцыю з социялістамі, але першыя ад мовіліся. І няма ведама, як скончыцца гэты бесканечны палітычны крызіс. Але яшчэ больш скандальна стаіць справа ў Літве. На выбарах у Клайпэдзе, забранай літоўцамі, быццам у рэзультаце паўстаньня мясцовага літоўскага насяленьня, з 29 дэпутатаў у Сойм прашло: 28 немцаў і толькі адзін літвін. Ці-ж Нямеччына не закранецца гэтага пытаньня, як увойдзе ў Лігу Народаў? А ў самай Коўне быў выбраны бурмістрам паляк Янкоўскі. Літоўцы арыштавалі яго толькі за тое, што ён быў выбраны большасьцю нацыянальных меншасьцяў у сталіцы літоўскай рэспублікі, якая мае яшчэ нават прэтэнзію на Вільню. Пасьля аго, як Янкоўскі быў звольнены з вастрогу, яго ўдругі раз выбралі, але і гэтыя выбары таксама былі прызнаны незаконнымі..

З усіх гэтых фактаў і Польшча, якая мае трэціну насяленьня нацыянальных меншасьцяў, павінна зрабіць належны вывад.

**N.**

*Адказвайце сьмела!*

*Дзяржава гарантуе, што тое, што скажаце ў часе сьпісу, ня можа быць падставай для вызначэньня падаткаў, правядзеньня рэквізыцыяў, або справаў судовых ці адміністрацыйных.*

## ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

### У Польшчы.

— Урад апрацаваў цэлы шэраг праэктаў дзеля павялічаньня ашчаднасьці. Праэктуецца зьменшаньне ліку ўрудоўцаў, упрашчэньне адміністрацыі і г. д.

— Прадбачацца зьмены у Польскім Банку. Будуць дапушчаны заграчінчыя капіталы да 45 пр. аснаўнога капіталу банку. У гэткім выпадку ў урадзе банку заселі-б інастранцы дзеля кантролю.

Прамысловы і гаспадарчы крызіс не спыняецца. Лік безработных расьце. Безработныя пачынаюць дэманстраваць. Гэткія дэманстрацыі адбыліся ўжо у Згержэ, дзе паліцыя разагнала дэманстрантаў асобнымі бомбамі з газамі, якія вызываюць сьлёзы на вачох.

— У Львове закончыўся працэс Штайгера, які абвінавачваўся ў тым, што ў восені 1924 г., у часе пабыту у Львове Прэзыдэнта польскае Рэспублікі,—кінуў бомбу з мэтай забойства яго. Працэс цягнуўся 6 тыдняў і меў шмат надта цікавых і скандальных мамэнтаў. Урэшце прысяжныя засядацелі не прызналі Штайнгера вінаватым і Суд яго апраўдаў.

— Злоты ўсьцяж скача то ўверх, то ўніз. Былі мамэнты, што плацілі ўжо за даляр да 12 злотых, а потым курс упаў да 8. Ў зьвязку з гэтым забаронены вольны гандаль валютамі.

### За граніцай.

**Францыя.** Фашыстцкія арганізацыі вядуць па ўсей Францыі інтэнсыўную агітацыю і раскідаюць праклямацыі, у якіх дамагаюцца роспуску цяперашняга парляманту.

**Нямеччына.** Падпісаньне нямецкім урадам лёкарнскіх трактатаў выклікала крызіс кабінэту. Састаўленьне новага кабінэту Прэзыдэнт даручыў Коху, але той адмовіўся.

У апошні час значна павялічыўся лік безработных, а ласьне на 41 працэнт. У звязку з гэтым прадбачыцца аб'яўленьне асаднага палажэньня.

**Амэрыка.** Амэрыканскі парлямант прыняў законапраэкт аб зьменшаньні падаткаў на 1926 год на агульную суму 325 мільёнаў даляраў.

**Швэйцарыя.** На апошнім паседжаньні Лігі Народаў разглядалася справу Мосулу. Ліга прыняла ангельскі пунк гледжаньня аб непадзельнасьці Мосулу. Мосульскі вілайет будзе далучаны да Іраку, пад тым варункам, што Англія атрымае мандат над Іракам на 25 гадоў.

**Турцыя.** У Турцыі вельмі нездаволены пастановай Лігі Народаў па Мусульскаму пытаньню. Турэцкая прэса прызывае ўрад аружнай сілай адабраць ад Англіі Мосул.

**Кітай.** Японцы адмовіліся ад мірных перагавораў з гэн. Куо-Сунг-Лінам, якога яны лічаць здраднікам кітайскага народу. Японскі ўрад даў загад сваім гарнізонам у Манджурыі пасунуцца ўперад. Японскімі войскамі ў Манджурыі камандуе гэн. Сузукі — страшэнны вораг бальшавікоў. Японцы высялі ў Мукдэн 2 батарэі з Карэі і 4 з Гірына. У апошнія дні, у зьвязку з распачаўшыміся ў Манджурыі маразамі баі паміж гэнэраламі Куо-Сунгам і Чанг-Тсо-Лінам спыніліся.

## НОВЫ ФАКТ КАЛЕЦТВА БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

*(ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ).*

*Паважаны пане Рэдактар!*

Не адмоўце ў зьмяшчэньні на шпальтах Вашае паважанае газэты ніжэйпаданага: У № 283 газэты „Dziennik Wilenski" зьмешчана нататка аб тым, што 8 г. м. у Вільні былі арыштаваны два вучні Віл. Бел. Гімназіі па абвінавачаньню іх у комуністычнай працы. Газэта зазначае, што адзін з гэтых вучняў назваўся сябрам арганізацыі „Прасьвета". Іншыя газэты падалі і прозьвішча гэтага вучня—Саковіч Юльян.

Гэтым, ад імя Т-ва „Прасьветы", катэгарычна сьцьвярджаем, што вучань Ю. Саковіч сябрам „Прасьветы" ніколі ня быў, а навет і быць ім ня мог, бо ў склад сябраў Т-ва „Прасьвета" вучні сярэдніх школаў ніколі ня прыймаліся і ня прыймаюцца.

Лічым, што называючы сябе сябрам „Прасьветы", Саковіч рабіў гэта з мэтай правакацыйнай. Зусім зразумела, што зрабіў ён гэтак па загаду сваіх кіраўнікоў. Пратэстуючы проці гэтых агідных спробаў правакацыі, абвінавачаньне за іх скіроўваем па адрасу Віленскага „Белкома", які, карыстаючыся мэтадамі сваіх менскіх таварышоў, робіць усё магчымае, каб як-небудзь скомпрамітаваць легальныя беларускія арганізацыі—Т-ва „Прасьвету" і Час. Бел. Раду.

У сваім часе, усё віленскае беларускае грамадзянства, на сваім сходзе ад 26 ліпня г. г., пратэставала проці ўцягваньня вучняў Віл. Бел. Гімназіі у комуністычную працу, а Час. Бел. Рада, у пратаколе ад 27 ліпня, абвінавачаньне ў гэтым скіравала па адрасу старшыні Віл. „Бел Кома" п. А. Луцкевіча. У той час, ані „Белком", як арганізацыя, ані п. Луцкевіч, як яе старшыня, на пратэсты гэтыя ніяк не рэагавалі і абвінавачаньням не пярэчылі.

Дзеля гэтага, адначасова з гэтым спраставаньнем, Т-ва „Прасьвета" і Час. Бел. Рада пастанавілі зьвярнуцца з пратэстам у гэтай справе да Сойму.

Старшыня Час. Бел. Рады і Надзорчай Рады Т-ва „Прасьвета"
(—) *А. Паўлюкевіч.*

За Старшыню Т-ва „Прасьвета"
(—) *А. Якімовіч.*

Віцэ-Старшыня Т-ва „Прасьвета"
(—) *У. Більдзюкевіч.*

Сэкратар Час. Бел. Рады і Надзорчай Рады Т-ва „Прасьвета"
(—) *А. Кабычкін.*

## Са ўсходніх сказаў.

Ў гарача-знойны дзень, ў цяньку
Спакойна спаў разбойнік.
Зірнуў на гэты ціхі сон,
І кажа падарожнік:
„Як гэта смачна спаць зладзей
Закаранелы можа,
Ен—грэшнік, шмат згубіў людзей,
Сумленьне на'т ня гложа?"
Мулла на гэта адказаў:
Аллах той сон навеяў
Яму, каб ён, хаця ба сьне,
Між нас біды ня сеяў..

*С. Вітка.*

## З ПОЛЬСКАЙ ПРЭСЫ.

Украінскі праф. др. Смаль-Стоцк зьвярнуўся да польскага ўраду ў справе ўкраінскага ўнівэрсытэту ў Львові ад імя групы ўкраінскіх прафэсараў, якая стаіць на грунце польскай дзяржаўнасьці і выяўляе сваю гатоўнасьць шчыра і лёяльна супрацоўнічаць з польскім урадам, дзеля дабра дзяржавы і абодвых народаў.

Па гэтаму поваду „Kur.Wil." зьмя-

УЛАДЫСЛАЎ РЭЙМОНТ.

# НА ПАСЕЦЫ.

— Ваўрук! а дык жа ўставай, а то нахлястаўся і будзе ляжаць як пан, а я сабе раданькі даць не магу. Дык-жа Рахвал зараз прыедзе, вось як-га, ну!

Пачала энэргічна трасьці мужыка, ляжаўшага ў куце хаты на кучы павыкіданай з ложкаў саломы.

— Баба, кажу табе, адыйдзі — замарматаў злосна Ваўрук і павярнуўся тварам да сьценкі.

— Трэба ўсё вынесьці з хаты, дык пасьля лягчэй будзе ўскладаць на калёсы. Збожжа яшчэ ня ўсыпана ў мех, бульбу трэ' вынесьці са стадолы, Божанька ты мой! гэтулькі работы, што мне ўжо рукі і ногі анямелі, а тут мужык, замест памагчы, дык ён сьпіць. Ваўрук—крыкнула, са злосьцю падскочыўшы да яго, — калі ня ўстанеш, дык так змажу цябе, што пабачыш!

— Баба, кажу табе падабру: адыйдзі! — адказаў мужык мягчэй, лёг на брусе галаву ўсадзіў у салому і ляжаў гэтак непарушна, ня гледзячы на крыкі жонкі.

— Ой, бедная я сіротанька, бедная! Гэтулькі дабра я маю з мужыком, гэтулькі, што цяпер трэ' выехаць на чынш, моў старцы якія, у такую пару, што й сабаку шкада выгнаць! Гаспадарская дачка пойдзе да людзей, на службу, моў нейкае лахмацьцё або патаскуха! — наракала Ваўручыха, зьнімаючы абразы са сьценаў, абкручваючы іх ручнікамі і выносячы з хаты пад страху Затрымоўвалася каля парога і глядзела на блісьцеўшую, размокшую дарогу, цягнуўшуюся праз сьвежую прасеку, развярнуўшуюся шырока навокал хаты, заваленую кучамі гальля і сьсечаных дрэваў. Яна глядзела, ці ня едзе Рахвал, які меўся перавезьці іхнюю маемасьць у вёску, але нічога не было відаць на дарозе, апрача сіняй, нізка вісеўшай, імглы і вялізных лужаў вады, Дробны дождж, які пранізываў наскрозь холадам, падаў бязупынна. Баба цяжка ўздыхнула, абцёрла нос, жаласьліва глянула на хату, з якой ужо меліся выехаць, і пайшла на другі бок будыніны да каровы, стаяўшай пасярэдзіне, дзеля таго што стойла ўжо была вынесена перад хату, дзе стаяла ўжо жоўтая ў чырвоныя кветачкі шафачка з памаляванымі на сіні коляр полачкамі, дрэўляныя крэслы, лавы, столік, вёдры, мяхі з бульбай, пукі сена перавязанага вяроўкамі, два ложкі, полкі і шмат рознай зваленай бязладна ў кучу драбязы. Вялізная з чорнымі плямамі сьвіньня ляжала на зямлі прывязаная за нагу да маладога дубка, росшага насупроць вакна; яна цяжка енчыла, дзеля таго што яе сасалі і тыркалі лобамі ружавыя парсючкі.

— Сівуля! а сівуляі — шапатала Ваўручыха, ласкава гладзячы карову па абвісшаму горлу. Сівуля працягнула лоб і шырокім вострым языком лізала яе па голых да плечаў руках. Ваўручысе сьлёзы залілі вочы, адвярнулася ад каровы і пайшла ў сенцы.

— Ціп-ціп-ціп! — пачала клікаць куры, сядзеўшыя радам на плоце. Сыпнула ім жменю зярнятаў, а пасьля лавіла іх, зьвязывала ім крыльле і клала ў вялікі кошык Ізноў глянула на сьвет. Сьцежкай ад далёкай вёскі, якую ледзьледзь было відаць праз імглу і ўсеянае дажджом паветра, ішла нейкая дзяўчына.

— Марыська! пасьпяшайся-ж крыкнула, пагражаючы рукой, бяжайшай дзяўчыне.

Марыся босая, у хустачцы на галаве, спад якой відаць было толькі кавалак пасінеўшага ад холаду твару, прыбегла і выцягнула спад фартуха бутэльку з гарэлкай, булкі і кусок чырвонай кілбасы.

— Дзе-ж ты так доўга сядзела? Па хатах валачылася, ці што?

— Ужож доўга, а няўжо-ж! па хатах! Гэткі кусок дарогі, што змарылася як сабака, а мамка кажа, што доўга! Трэ' было самой ісьці, або няхай-бы бацька пайшоў — жаласьліва адказвала дзяўчына, паціраючы нагу аб нагу і хухаючы ў пасінейшыя рукі.

— Але! будзеш ты мне адбрэхівацца, ты калтун якійсь! — дала ёй кулаком у сьпіну.

Марыся прысела перад печкай, у якой дагараў ужо вагонь і пачала плакаць, сагрэваючы сабе рукі над вугальлем, а Ваўручыха выносіла рэшту маемасьці, паглядала на ўсё яшчэ пустую дарогу, стукала дзьвярыма, брыкнула са злосьцю нагой старога, падобнага да воўка шэрага, сабаку, які абнюхіваў усе куты і з апушчаным хвастом

шчае перадавы артыкул, у якім між інш. піша:

„...Калі крыху зламалася сьцяна „ненавісьці“ раздзяляўшая два народы, дык гэта ў першую чаргу заслуга той сілы эўропэйскага лібэралізма, якая прабіваецца з усіх пачынаньняў цяпеперашняга прэм‘ера, п. Скшынскага.

І далей:

„Пісьмо праф. Стоцкага зьяўляецца доказам, што украінскія вучоныя доўга надумываліся, а згода да супрацоўніцтва зьявілася толькі як рэзультат гарантыяў, якія дае асоба п. Скшынскага.

Далей, пераходзячы да справаў беларускіх, аўтар піша:

„Палітычнае жыцьцё беларусаў пайшло зусім іншым шляхам, чымся ўкраінцаў. У першую чаргу прычыніўся да гэтага недахват інтэлігенцыі ды асьветы сярод сялянства. Далей чэсталюбства (ambicyjki) павадыроў, якія стараліся пабіць адзін аднаго дэмагогічнымі абяцанкамі. Грошы з Масквы зрабілі рэшту справы. І што-ж бачым?

„Беларусы цяпер перажываюць развал за развалам. Інтэлігэнцыя, лікам малая, параскіданая ў розных групіроўках, ня можа стварыць конкрэтнай палітычнай праграмы. Жыве лятуценьнямі, празябаючы цухова.

„Польская палітыка ў адносінах да беларусаў ад часу вызваленьня ўсходніх земляў была абмылковая. Праўда, замігацелі ў 1919 г. праменьні фэдаралізма, а з боку беларускага насяленьня энтузыязм да тагочаснага Правадыра, але хутка пагасьлі...

„Цяпер бачым, што ўзаемныя адносіны завострыліся. Элемэнты радыкальныя высоўваюць гэтак дзікія дамаганьні, што кожны паляк павінен прайсьці міма іх. А элемэнты ўмяркаваныя палохаюць рашучыя радыкалы тым, што уступкі з іхняга боку будуць лічыцца здрадай беларускай справе. Наагул адносіны польска беларускія (апрача пэўных выняткаў) адзначаюцца недаверыям. З аднаго і з другога боку—трэба сказаць шчыра — пара кончыць з дасюляшняй тактыкай. А да гэтага вядзе добрая воля і ўзаемная шчырасьць.“

Мы падчыркнулі ў канцы гэтага артыкулу словы аўтара, пастаўленыя ў скобках, аб вынятках Ясна, што тут ідзе гутарка аб тых беларускіх палітычных групіроўках, якія стаяць на грунце польскай дзяржаўнасьці і хочуць супрацоўнічаць з польскай дэмакратыяй дзеля наладжэньня згоднага сужыцьця двох народаў. Нажаль аўтар даўжэй над гэтым не затрымаўся. Спадзяёмся, што „Kurjer Wil.“, які на сваіх старонках праводзіць ідэю згоднага сужыцьця народаў, увайшоўшых у склад Польскай Рэспублікі, да гэтага пытаньня яшчэ вярнецца.

Мы з свайго боку з задаваленьнем сьцьверджаем гэты факт спробы польскай дэмократыі стаць на здаровы шлях у справе польска-беларускіх адносінаў.

# У С.С.Р.Р.

### Батрацкі „рай“.

Батрацтва ў сельска-гаспадарчым краю з вялізарнымі зямельным абшарамі — ганьба! У першую чаргу батракі павінны атрымаць зямлю з маёнткаў, дзе яны працавалі! Так крычалі на ўсіх сабраньнях бальшавіцкія агітатары ў 1917 годзе, зазываючы батракоў да барацьбы з „эксплёататарамі“—панамі і інш. Батракі паслухалі, сваімі мазолістымі рукамі, побач з сялянамі і работнікамі, — пасадзілі на трон Крэмлёўскіх цароў — Леніна, Троцкаго і кумпанію, памаглі ім „вывадзіць у расход эксплёататараў“, якія не пасьпелі ўцячы. Маёнткі звольніліся. Здавалася-б—прыйшоў час, і магчымасьць выпаўніць абяцанкі. Як-бы ня так! Маёнткі-маёнткамі і засталіся. Толькі належаць яны не да пана, а да якога небудзь камісара, найчасьцей з роду „Львоў Бэркавічаў“. А батрак так і застаўся батраком, і заместа зямлі атрымаў, як кажуць, „хвінтос, ды пад самы нос“. І на‘т не палепшылася іх жыцьце пад новымі панамі-камісарамі. У канцы прошлага месяца ў Менску адбыўся першы (гэта за 8 гадоў!) „усебеларускі з‘езд батракоў і лесарубаў“. З адчоту, які зьмяшчае „Зьвезда“ ў № 243, мы бачым, што перш-на-перш—лік *батракоў павялічваецца*.. У 1924 г. іх было *12.000 чал.* а ў бягучым—ужо 18.000! І гэта, па словам газэты, — далёка не запраўдны лік батракоў. Статыстыка ахапіла толькі 60—66 працэнтаў (значыцца батракоў ёсьць каля *25—27.000 чал.!* Нічога сабе?) Затым на зьездзе, выясьнілася, што батраку наагул жывецца цяперака як і раней. Зарабатак —„вельмі малы“, праца—ад раніцы да познага вечару, няма дзён адпачынку; харчы і кватэры—зусім дрэнныя і г. д. Наагул становішча батракоў прызнана „*надта цяжкім*“. Батракі патрабуюць: абароны матэр‘яльнага становішча, павялічаньня заработнай платы і своечаснае яе выплаты (ня менш аднаго разу ў 2—3 месяцы), устанавіць адналькавы зарабатак падросткам, устанавіць *сярэдні гадавы працоўны дзень на 10 гадзін*, памешканьні павінны быць цёплыя і чыстыя, яда павінна быць палепшана, мэдыцынская дапамога павінна быць дана і г. д. Апроч таго—батракі патрабуюць, каб даялі работу тым з іх, якія ня маюць яе.

Вось які рай стварылі бальшавікі батракам!

### Як жывецца ў „раю“ сіратам.

М. Калінін, у стацьці пад загалоўкам „Нашыя бальныя месцы“, зьмешчанай у № 255 маскоўскай „Праўды“, кажа, што „мы (г. зн камуністы) зрабілі ня мала дзеля таго, каб палягчыць жыцьцё скалечаных вайной рабочых і сялян, аднак астаецца зрабіць яшчэ *вельмі і вельмі* многа“. Вось як малюе ён жыцьцё сірот, „хто ня бачыў іх, начуючых ў катлах: у ямах для сьмецьця, разьежджаючых пад вагонамі, пяючых і просячых міластыню на ўсіх станцыях? Многіх з іх ужо зацягнула вуліца, яны прывыклі бадзяцца, жабраваць, многія гінуць, хварэюць, вялікі працэнт сярод іх зусім сапсаваныя дзеці. Каб вярнуць іх да здаровага жыцьця—патрэбна доўгая выхаваўчая работа. Яшчэ ёсьць час і можна зрабіць многа“. Далей Калінін прызывае —каб грамадзянства сьпяшыла з ахвярамі...

Цікава: дзе-ж тыя прытулкі, ясьлі, школы і інш. інстытуцыі для дагляду дзяцей, аб якіх так рэклямавалі ды яшчэ і цяпер рэклямуюць тварцы „раю“? Вось яна праўда жыцьця: на славах — рай усім, давольства, апека бязпрызорным і інш„ а сапраўўы „хто ня бачыў і г. д.

Так, бачылі гэта, як і многа-многа іншага, што малюе добра гэты „рай на зямлі!“

*Колькі ёсьць жыхароў на абшары Віленшчыны і з каго яны складаюцца?*

*Толькі сьпіс насяленьня дасьць адказ на гэта пытаньне.*

*Колькі ёсьць безработных у кожнай галіне прамысловасьці?*

*Сьпіс насяленьня дасьць адказ на гэта пытаньне.*

# Голас чытачоў.

(*Пісьмо з провінцыі*),

### Набалеўшае пытаньне.

Прайшло ўжо шмат часу, як беларусы пачалі прабуджацца ад свайго векавечнага сна. Нацыянальная сьвядомасьць беларускага народу расьце. Куды ня кінеш вокам, усюды кіпіць праца, на ўсіх галінах нашага нацыянальнага жыцьця. Працуюць у школах і на курсах; друкуюць газэты і кнігі; малююць, гуляюць і пяюць мастакі і артысты; гандлююць коопэратывы, а нават маем ужо і беларускі банк. І толькі ў аднэй галіне нашага жыцьця, а ласьне ў справе адраджэньня Праваслаўнай Беларускай Царквы, амаль што нічога ня робіцца. За ўвесь час, у беларускай прэсе, зьявілася толькі тры ці чатыры стацьці па гэтаму пытаньню. Стацьці гэтыя рэхам аддаліся па ўсей нашай Бацькаўшчыне, заклікаючы да працы ўсіх царкоўных працаўнікоў, але прызыў гэты застаўся бяз водгуку. Яшчэ і да гэтага часу беларускі праваслаўны народ пазбаўлены магчымасьці чытаць Сьвятое Пісаньне і чуць навуку ў царкве ў роднай сваёй мове.

Далей спаць гэтак, браты немагчыма! Усе праваслаўныя грамадзяне, духоўныя айцы і ўсе тыя каму дарага духоўная прасьвета, павінны згуртавацца дзеля сьвятой і вялікай працы на карысьць беларускага праваслаўнага народа. Кожны з вас, па сіле сваей здольнасьці, павінен дапамагчы у гэтай працы, памятаючы, што ніхто іншы для нас яе ня зробіць. Толькі супольнымі высілкамі мы здолеем скрануць з месца гэтую заняпаўшую справу. У Афрыцы, або ў Азіі, каб навярнуць да Бога чорных і жоўтых людзей і зрабіць іх хрысьціянамі, перакладаюць Сьвятое Пісаньне на зразумелую гэтым людзям родную іх мову. А ў нас, яшчэ і цяпер, навука ў царкве і самае Сьвятое Пісаньне апавядаюцца на незразумелай і чужой нам маскоўскай мове. Час ужо з гэтым скончыць і ўсюды даць месца нашай роднай беларускай мове. Вялікі прапаведнік Навукі Хрыстовай—апостал Павал рашуча выступаў проці ужываньня чужой мовы: „Калі я прыду да вас брацьця і буду гаварыць незразумелай мовай, дык якую вам прынясу карысьць?“ (Кор. 14,6). „Калі вы языком вымаўляеце незразумелыя словы, дык як даведаюцца, што вы гаворыце? Вы гаворыце на вецер“ (Кор. 14, 9).

Гляньце, як упарта на гэтым шляху працуюць праваслаўныя ўкраінцы і беларусы—каталікі. Яны ня спадзяюцца, што нехта для іх зробіць, але самі упарта працуюць. Дык ня дзіва, што і здабыткі ў іх вялікія.

Першай ластаўкай гэткай працы ў нас зьяўляецца выдаваная ў Варшаве духоўная часопісь „Праваслаўны Беларус“, з дадаткам „Беларускія казаньні“. Наш абавязак — падтрымаць гэтую першую беларускую праваслаўную часопісь, ня толькі пашырэньнем яе, але і актыўным супрацоўніцтвам у ёй. Як-жа пачаць нам гэтую працу і якія мэты мы павінны сабе паставіць?

Перш-на-перш, усіх параскіданых па нашай Бацькаўшчыне царкоўных беларускіх працаўнікоў мы павінны аб‘еднаць у вадно цеснае *Беларускае Царкоўнае Брацтва*, якое-б рупілася і кіравала усею гэтаю працаю. Мне здаецца, што цэнтрам нашага духоўнага адраджэньня мы павінны зрабіць Вільню, дзе цяперака зьмяшчаецца кузня беларускай культуры. За гэтую працу павінны ўзяцца ўсе. Мы павінны перамагчы ўсе перашкоды, як нестачу часу, рожніцу ў перако-

---

асавеўшы цягаўся па хаце, не знаходзячы для сябе месца.

Цішыня запанавала ў хаце, толькі ў шыбы зьвінеў дождж і з пасекі далятаді гукі сякераў дравасекаў. Мутны шэра жоўты зьмерк заліваў хату аголеную з рэчаў, зьліваўся з чорнай закапцеўшай стольлю; абдзёртыя сьцены зрабіліся яшчэ больш шэрымі.

Ад разьлітай вады на гліністым замест падлогі таку рабілася коўзкае, ліпкае балота, у якім дзьве качкі рыліся дзюбамі, шукаючы стравы. Праз выбітыя шыбіны малога ўверсе ваконца ўрываўся вецер разам з даждж ом, шумеў, падмятаў параскіданую салому і трос спускаўшыяся ад столі паласы чырвонай паперы, парэзанай узорамі.

Ваўручыха пайшла на малы панадворак, пусты і загажаны гніўшымі лісьцямі росшых каля плота вішняў, якія, як крывавыя плямы, падалі на вялікі катух і на страху пагнуўшагася і валіўшагася хляўка. Яна пайшла за стаяўшую крыху далей стадолу, пасярэдзіне малога поля, раскапанага пасьля бульбы і поўнага сухога зельля. Сумна паглядзела і вярнулася, бязупынна абціраючы з вачэй сьлёзы, якіх не магла ўстрымаць. Станавілася на парозе, хапалася за галаву і тупым мутным поглядам упіралася ў шэры прастор.

— Божанька ты мой, Божанька!— ціха і жаласьліва енчыла ды ізноў кідалася вынасіць і ўкладваць убогія гаспадарчыя прылады. Яе сэрца трапяталася ў страшэнным несупакою і болю разставаньня з гэтай хатай, у якой гэтулькі гадоў жылі, і гэты боль так яе час-ад-часу абхапліваў, што ажно прысядала на парозе і дазваляла сьлёзам свабодна плыць па твару і толькі ціха і глыбока енчыла.

Ваўрук усё ляжаў, пераварачываўся з боку на бок, праціраў кулаком пачырванеўшыя вочы і гэтак уздыхаў, што ажно сабака прыблізіўся да яго, ціха выў, скрабаў яго лапай па кажуху і круціў хвастом; бачучы, што гаспадар ня зьвяртае на яго ўвагі, ішоў да печкі, сядаў каля Марысі і драмаў, сонна гледзячы на дагараўшае вугальлё.

Урэшце, перад самым вечарам, прыехаў Рахаал на двох худых кабылках.

— Хай будзе пахвалёны!—сказаў, уваходзячы з пугай у хату.

— На векі — адказаў Ваўрук, падыймаючыся з бярлогі. Здароў, кум, Бог вам аддзякуе, што вы аб нас не забыліся.

— Дождж гэткі, што ажно вочы залівае, на дарозе балота па восі і гэткая сьцюжа, што больш дакучае за мароз.

— Ну дык трэба ўкладывацца, каб перад ночай пасьпець у вёску.

— А няўжож, што так—сказаў Рахвал, пугу паставіў у куце, рукі абагрэў над плітай і выцягнуўшы пальцамі з вагню чырвоны вугалёк, усадзіў яго ў пагасшую люльку, прысеў на пакінутай яшчэ пад вакном скрыні і пускаў дым на хату.

Ваўручыха паставіла на вакне гарэлку, кілбасу і булкі

— Ваўрук! пі да Рахвала.

— О!... навошта гэтыя расходы!—аднеківаўся мужык, а сам прагавіта ўцягваў носам пах часнаку, які разыходзіўся ад кілбасы, каторую Ваўручыха рэзала ножыкам.

— Будзь здароў, Рахвал!

— Хай вам будзе на здароўе.

Выпіў, плюнуў, абцёр рукавом вусны і наліў ізноў.

— Ягна! маеш і ты, бяры выпі крыху.

Ягна адвярнулася і памалу смактала гарэлку, а мужыкі ламалі чорствыя булкі і елі, закусваючы кілбасой.

— Ну, яшчэ па аднэй чарцы, каб нам добра ехалася.

— Выпівайце з Богам.

— Пан прадаў лес на шампанскае, дык мы з гэтай радасьці выпьем хаця гарэлкі! Каб табе, гад запаветраны, смалы ў пекле не шкадавалі! — прашаптаў паглядаючы праз вакно з ненавісьцю на сінія ледзь бачаныя контуры двара.

— Што праўда, то праўда, а дык-жа цяпер нават пугу трэ‘ будзе купляць — уздыхнуў сумна. — Як быў лес, дык хаця чалавек і баяўся крыху, хаця і вы добра пільнавалі, але заўсёды або хварасьціны, або нейкую сасонку, або кіёк якійсь да плоту — а заўсёды можна была сьцягнуць. І грыбкоў чалавек паеў, і ягадкаў дзеці назьбіралі, а час-ад часу чалавек і зайчыка да хаты прынясе, або птушку нейкую, а цяпер што? Дрэнна будзе, ой, дрэнна!

(*Канец будзе*).

